


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

24 мая 2002 года
№ 21 (370)
Выходзіць па пятніцах

ПЛЮС Тэлетыдзень

## Навіны рэгіёна

### Апрасоўка працягваецца

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА**. 29 мая тут павінны ўключыць гарачую ваду. Але яна будзе не ўсюды. Як сказаў намеснік дырэктара маладзечанскіх электрасетак па цеплазабеспячэнні **Леанід Кузняцоў**, у маладзечанскіх цепласетках знайшлі 17 пашкоджанняў. Цяпер ідуць рамонтныя работы. У Вілейцы цепласеткі яшчэ правяраюць. Пакуль знайшлі тры парывы.

**Ірына РАБУШКА.**

### Падаражэла паляванне

**ВАЛОЖЫН**. Паляўнічыя разавыя і сезонныя абанементы на тэрыторыі раёна падаражэлі на 10%.
Так вырашыў райвыканкам. Паляўнічы збор стане дадатковай крыніцай грашовых паступленняў у бюджэт.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Пластыкавыя грошы у Мядзеле

**МЯДЗЕЛ**. У райцэнтры адкрыўся першы магазін, у якім за пакупкі можна заплаціць з пластыкавых картак Cirrus/Maestro ад «Беларусбанка». Знаходзіцца ён на ўездзе ў Мядзел і належыць санаторыю «Сосны». Да канца года мяркуюць абсталяваць плацёжнымі тэрміналамі магазіны у райцэнтры і Купе.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Пасяджэнне аблвыканкома

**ВІЛЕЙКА**. На мінулым тыдні тут прайшло выязное пасяджэнне аблвыканкома.
У Вілейку прыехалі старшыні 21 раённага выканаўчага камітэта. У першы дзень, 15 мая, госці з вобласці і раённае кіраўніцтва наведала магазіны, калгасы, раённую бальніцу, прадпрыемствы. На наступны дзень адбылося плянарнае пасяджэнне. Разбіралі эканамічнае становішча раёна.
Па выніках работы з 4 месяцы раён не выканаў абласныя заданні амаль па ўсіх асноўных паказчыках сацыяльна-эканамічнага развіцця. Мінскія і вілейскія эканамісты распрацоўваюць меры, якія дазволяць вывесці раён на запланаваныя паказчыкі па выніках паўгоддзя.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### Першы выпуск студэнтаў

**МАЛАДЗЕЧНА**. 27-29 мая 36 студэнтаў Маладзечанскага філіяла недзяржаўнага інстытута кіравання і прадпрымальніцтва здаюць апошні экзамен. І праз некалькі дзён атрымаюць дыпломы менеджэраў.
Гэта будзе першы выпуск філіяла. Дырэктар **Галіна Татарыновіч**:
— У гэтай групе пачыналі вучобу каля 50 чалавек. За навучанне студэнты плацілі 450 долараў ЗША па курсе Нацбанка ў год. На наступны навучальны год плануецца знізіць аплату, бо ў інстытуце дастаткова добрая матэрыяльная база і цяпер ён трывала "стаіць на нагах".

**Ірына РАБУШКА.**



## Надвор'е на выхадныя

Субота, 25 мая

**Мінск**
5°С (уначы)
15°С (удзень)



**Вільня**
3°С (уначы)
15°С (удзень)



Нядзеля, 26 мая

**Мінск**
5°С (уначы)
20°С (удзень)



**Вільня**
3°С (уначы)
20°С (удзень)



# Свет нашых захапленняў

**ВІЛЕЙКА. Так называлася выстаўка хатніх раслін, якая прайшла ў мінулыя выхадныя ў гарадской бібліятэцы. Гэтае мерапрыемства праходзіць чацвёрты год запар. Арганізавалі выстаўку гарадская бібліятэка і раённая станцыя юных натуралістаў.**

Сёлета за галоўныя прызы ў дзвюх намінацыях – кактусы, і расліны, якія цвітуць, — спаборнічалі 120 экспанатаў з дваццаці васьмі хатніх калекцый. Пераможцаў вызначалі наведвальнікі, якія аддавалі свае галасы за тыя расліны, якія найбольш спадабаліся. За два дні расліны паглядзелі 877 чалавек. Летась наведвальнікаў было крыху больш – 940.

Пасля першага дня сярод кактусаў лідзіраваў "выхаванец" **Наталлі Мядзведскай**, а ў другой намінацыі – **Рэгіны Дучко**. Назаўтра становішча не змянілася, у выніку пераможцы набралі адпаведна 104 і 94 галасы. Другімі сталі расліны ад **Марыны Пагуды** і **Раісы Соніч**, трэцімі – ад **Дзмітрыя Навіцкага** і **Анастасіі Голубевай**. Пераможцы і прызёры атрымалі падсвечнікі, а дзеці-удзельнікі – невялічкія падарункі.

Сярод ўдзельнікаў ёсць тыя, хто выстаўляў свае расліны чацверты год запар. Гэта ўрач-стаматолаг Марына Пагуда, работнік райвыканкома **Яўген Ігнатовіч**, індывідуальны прадпрымальнік **Таццяна Навіцкая**. Да выстаўкі "Свет нашых захапленняў" раённая станцыя юных натуралістаў прадаставіла калекцыю фларыстыкі – карцін з выкарыстоўваннем элементаў раслін.

**Юрый КАРПІЦКІ.**



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**19 мая 4-гадовая Маша Акулевіч упершыню наведала выстаўку "Свет нашых захапленняў".**

# Вілейскі малочны завод перажывае крызіс

**ВІЛЕЙКА. Прадукцыя ААТ "Вілейскі малочны завод" яшчэ некалькі год таму брала прызы на беларускіх і замежных конкурсах. Яе ведаюць і ў райцэнтры, і ў суседніх гарадах.**

Але цяпер прадпрыемства, як і многія "калегі", ў фінансавым крызісе. Агульная сума запазычанасці блізіцца да мільярда рублёў. Гэта і плата за крэдыты, і запазычанасць перад калгасамі і насельніцтвам раёна за малако.

Пра цяперашняе становішча на заводзе расказалі адказныя асобы.

Начальнік аддзела збыта **Людміла Дубіна**:

— У нас усё добра. Дырэктар стварыў 200 рабочых месцаў. У нас ёсць 10 дыпломаў не толькі з беларускіх, але і з замежных конкурсаў. Людзі ганарацца тым, што працуюць на гэтым заводзе. За 6 гадоў дырэктар добраўпарадкаваў тэрыторыю завода на еўрапейскім узроўні. Толькі тры заводы ў краіне – у Брэсце, Ваўкавыску і Клецку – могуць нам скласці канкурэнцыю.

Галоўны інжынер **Пётр Чаўлытка**:

— Прадукцыю завода мы прадаем амаль па ўсёй Беларусі. Тавары з малым тэрмінам захоўвання рэалізуем толькі ў Вілейцы. Падтрымліваем сувязі і з іншымі краінамі. Але кожны абараняе свае рынкі, таму збываць прадукцыю ўсё цяжэй і цяжэй. Тое, што расійскае масла таннейшае, — гэта пытанне якасці. У Беларусі няма натуральных расійскіх прадуктаў. Сабекошт нашай прадукцыі зніжаць не будзем, таму што цэны на яе ўстаноўленыя дзяржавай. Але і эканоміць няма на чым, бо кошт сыравіны ў сабекошце складае каля 70%.

Тэхнолаг **Святлана Бохан**:

— Цяпер заводу цяжка. Але што зробіш: больш якасная прадукцыя заўсёды даражэй каштуе. Стараемся трымацца за кошт прадукцыі. Адных йагуртаў у нас 12 найменняў, тварожнай масы – 9. Паступіў у продаж новы сыр "Калейдаскоп". Шмат залежыць і ад знешняга выгляду тавару. Калі б маглі закупіць новыя яркія ўпакоўкі, то і попыт на нашую прадукцыю павялічыўся б. Хацелі б захаваць сваю тэхналогію вытворчасці – цяпер мы не разбаўляем натуральную малочную сыравіну дабаўкамі нізкай якасці.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**



Фота IREX/ProMedia.

**У Вілейскага малочнага завода ёсць запазычанасць за малако перад калгасамі раёна. Толькі каровы пра гэта не ведаюць.**

■ КОНКУРСЫ

# Гран-пры на фестывалі ў Чысці ніхто не атрымаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У мінулы чацвер ў Чысці прайшоў абласны фестываль-конкурс "Гучаць цымбалы на зямлі Купалы".**

106 навучэнцаў дзіцячых музычных і мастацкіх школ, сярэдніх навучальных устаноў, ансамблі з Вілейскага, Мядзельскага, Салігорскага, Маладзечанскага, Барысаўскага, Пухавіцкага, Дзяржынскага і Мінскага раёнаў сабраліся ў Чысцінскай музычнай школе, каб паказаць сваё майстэрства, пазнаёміцца з новымі творамі і тэхнікай выканання, разам з тым, зацікавіць гледачоў ігрой на нацыянальным інструменце Беларусі.

## Цымбалы

Цымбалы – мнагаструнны ўдарны інструмент старажытнага паходжання. Выявы гэтага інструмента былі знойдзены яшчэ на старажытна-асірыйскіх помніках. У Еўропе цымбалы з'явіліся ў XIV стагоддзі, але пад розныміназвамі. Упершыню рэканструяваныя ў Венгрыі ў канцы XIX стагоддзя майстрам Шундай. Сёння гэты інструмент уваходзіць у склад народных аркестраў Польшчы, Румыніі, Беларусі, Украіны і Малдавіі.

## Канцэртная праграма

Удзельнікі павінны былі выканаць два рознахарактарныя творы, адзін з якіх – класічны, а другі – адвольны. Працягласць – 10 хвілін для школ і 15 – для сярэдніх навучальных установ. Шмат цымбалістаў ігралі больш за 20 хвілін.



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**Абласны фестываль-конкурс «Гучаць цымбалы на зямлі Купалы». Святлана Шаранговіч з Мядзела выконвае твор Ігара Лучанка «Успамін».**

Хваляванне, распяванні, пошукі згубленых нотаў, а некаторымі дзяўчатамі – бігудзі, каб зрабіць прычоску, – усё адпавядала закуліснаму жыццю. Першымі выступалі сольныя выканаўцы дзіцячых музычных школ (ДМШ) і дзіцячых школ мастацтваў (ДШМ), потым вучні сярэдніх навучальных устаноў. З 22-х удзельнікаў быў толькі адзін хлопец – **Андрэй Цюкалаў** з Барысава. Ён першы сціснуў мітусню цымбальнымі гукамі, але пасля сумаваў ля акна.

– Засмуціўся ад таго, што зрабіў памылку?

– Ды не. Сама паспрабуй сярод адных дзяўчат выступіць. Проста натхнення няма, – усміхнуўся ён.

Пакуль гледачы слухалі творы выканаўцаў, а кіраўнікі атрымлівалі талоны на харчаванне ў рэстаране "Вячорка" і адзначалі камандзіроўкі, я завітала ў класы да гасцей фестывалю.

## Якія вы, удзельнікі?

Адзінае пытанне: "Што рабіць, каб перамагчы ў конкурсах?" – амаль у кожнага выклікала ўсмешку.

**Вольга Шумак**, канцэртмайстар, Лагойская ДШМ:

– Трэба любіць музыку і жыць ёю. Летась мы атрымалі дыплом за арыгінальную трактоўку твора. У гэтым – будзем да апошняга змагацца.

**Ірына Карнавухава**, дырэктар ДШМ, Мачулішчы:

– Часцей выступаць і добра займацца. Нашай школе ўжо 11 год, і мы шмат дзе ўдзельнічалі, але ніколі не хваляваліся. Як працавалі, тое і атрымлівалі. Вось і сёння, калі не пашанцуе, не разгубімся. Галоўнае – удзел.

**Іван Чарапко**, кіраўнік цымбальнага ансамбля ДМШ вёскі Лучнікі, Слуцкі раён:

– Патрэбны баявы настрой і таленавітыя вучні. Сёння цымбаламі не вельмі цікавяцца. Мы паспрабуем усім узняць настрой сваім выступленнем.

**Святлана Глінская**, кіраўнік ансамбля народных інструментаў ДМШ Красная Слабада, Салігорскі раён:

– Граматы, дыпломы – усё папера. Мы іграем для сябе, таму і іншым падабаецца. У вас другі раз. З усіх конкурсаў запомніўся фестываль у Ірландыі. Там узялі два першыя месцы. На парадзе, які прысвячаўся дню Святога Патрыка, нашай сцэнай была машына, якая рухалася. Мы не ведалі, што трэба цымбалы замацаваць, таму лавілі іх па ходзе. А я біла ў бубен, каб не збіцца з рытму. Смешна было!

## Пасля канцэрта

Пасля заканчэння 8-гадзіннага выступлення ўдзельнікаў, журы конкурсу больш за гадзіну падводзіла вынікі. Але гледачы не сумавалі, таму што для іх выступалі юныя спевакі эстраднай студыі Маладзечанскага раённага мастацкага цэнтра народнай творчасці з песнямі **Алены Атрашкевіч**.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

## Пераможцы фестывалю

**Дыпломы першай ступені атрымалі:**
**Наталля Дурко**, Маладзечанская ДМШ
**Ганна Грыгарцэвіч**, Мінскі дзяржаўны каледж мастацтваў
Дуэт Маладзечанскай ДМШ **Наталля Малькевіч** і **Вольга Вітушка**

**Дыплом за віртуознае выкананне:**
**Юлія Мякіна**, Маладзечанскае музычнае вучылішча імя М. К. Агінскага

**– за арыгінальную трактоўку твора:**
**Каця Сянько**, Маладзечанскае музычнае вучылішча імя М. К. Агінскага

**– за выразнае выкананне:**
**Кацярына Кажура**, Гародзькаўская ДМШ

**– самы юны выканаўца:**
**Алена Чуксікава**, ДМШ Краснай Слабады, Салігорскі раён

**– лепшы акампаніятар:**
**Таццяна Курц**, Вілейская ДШМ
**Вольга Карцель**, ДМШ вёска Лучнікі, Слуцкі раён
**Ірына Януш**, Маладзечанскае музвучылішча імя М. К. Агінскага
**Кірыл Гара**, Мінскі дзяржаўны каледж мастацтваў
**Таццяна Нячаева**, Гародзькаўская ДМШ
**Сяргей Кудрын**, Маладзечанскае музвучылішча імя М. К. Агінскага
**Гран-пры ніхто на атрымаў.**

## Свята камерных ансамбляў

**СМАРГОНЬ. З 27 мая па 1 чэрвеня пройдзе сёмы міжнародны конкурс камерных ансамбляў імя М. К. Агінскага.**

Удзел возьмуць 47 калектываў з усіх абласцей Беларусі, Расіі, Малдовы і Украіны. Жадаючыя змогуць паехаць на экскурсіі ў маёнтак Агінскага, што ў Залессі, і дом-музей паэта-дэмакрата Ф. Багушэвіча.

Адкрыццё конкурсу адбудзецца ў Доме культуры а 17-й гадзіне.

**Тарэса КУМІШЧА.**

## Мядзяльчане знаёміліся з «Куфэркам»

**МЯДЗЕЛ. У суботу ў бібліятэцы райцэнтра адбылася сустрэча з рэдкалегіяй часопіса «Куфэрак Віленшчыны», які выходзіць у Маладзечне.**

З выданнем пазнаёміў яго галоўны рэдактар **Міхась Казлоўскі**, свае вершы чытала **Таіса Трафімава**. Набыў часопіс новых чытачоў, а магчыма, і аўтараў сярод мясцовых краязнаўцаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**23-24 мая 2002 года з 8⁰⁰ да 11⁰⁰ арганізавана правядзенне «прамой лініі» па праблемах умацавання здароўя насельніцтва.**
**Галоўны ўрач Вілейскага райЦГіЭ М. М. Міхалевіч. Тэл. у Вілейцы 55684.**
**Намеснік галоўнага ўрача Вілейскага ТМА М. І. Якубоўскі. Тэл. у Вілейцы 54581.**

■ ВЫСТАЎКІ

# Россыпы цэнтра рамёстваў

**МАЛАДЗЕЧНА. Падчас правядзення абласнога фестывалю-конкурсу "Гучаць цымбалы на зямлі Купалы" у Чысцінскай музычнай школе прайшла выстаўка "Чароўныя россыпы Роднага краю". Яе падрыхтавалі навучэнцы народных і ўзорных студый выяўленчага мастацтва, народныя майстры і ўмельцы Маладзечанскага раённага цэнтра рамёстваў (МРЦР).**

На першым паверсе школы госці і ўдзельнікі фестывалю пабачылі работы з дрэва **Сяргея Дуйнова**, лозапляценне **Уладзімір Трубскага**, карціны вучня 4 класа Радашкавіцкай СШ **Юрыя Брэля**, кераміку **Дзімы Буднікава** і **Дзімы Панамарэнкі**, які жыве ў Мінску. Было шмат вышыўкі **Алены Сергіевіч** і майстра-метадыста МРЦР **Ганны Бабовіч**.

Расказвае Алена Сергіевіч:

– Я вышываю з дзяцінства. Мой дзед – **Міхаіл Грыбоўскі** – цудоўна вязаў кручком. Напэўна, ад яго атрымала ў спадчыну навыкі і цярплівасць. Вось карціну "Дзяўчаты ля прычала" вышывала 8 месяцаў, а на "Івана Царэвіча" ніткі ўзяла з дзіцячых вязаных рэчаў. Навошта купляць, калі дастаткова над парай патрымаць – і будуць не горшыя за акрылавыя. Люблю вышываць, нават і сну не шкада. Хочацца дзяцей прыгожаму навучыць, таму займаюся з імі ў сябе дома, нягледзячы на тое, што жыву ў інтэрнаце.

Ганна Бабовіч здзівіла ўсіх сваімі навалочкамі: для мужа, жонкі і дзяцей.

– Як зразумець, дзе якая? – запыталася я.



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**Карціна з саломы "Вясенні букет". Аўтар – навучэнка Маладзечанскага раённага цэнтра рамёстваў Юлія Верамей.**



Фота Вольгі ПІЛІПЕНКІ.

**Вышыўка Алены Сергіевіч з выстаўкі «Чароўныя россыпы Роднага краю».**

– Для мужчын кветкі вышытыя не так далікатна. На навалочках для жанчын вышытыя галубы, пераважаюць сінія колеры. У дзяцей кветкі драбнейшыя і больш пяшчотныя колеры.

Рукадзельніца займаецца гэтым рамяством тры гады, але ўжо паспела вышыць 8 абрусаў. Сёлета вышывае грыфона, які ўвасабляе бажаство. Яна часта наведвае Слуцк, дзе на выстаўках шукае новыя вобразы, а потым пераносіць іх на тканіну з дапамогай нітак мулінэ.

Карціны з саломы прапанавалі **Кацярына Чарнышова**, **Вольга Раманоўская** і **Юлія Верамей**, дэбют якой адбыўся на выстаўцы ў Валожыне "Саламяныя дзівосы".

Другі паверх занялі навучэнцы Красненскай ізастудыі. На вуліцы, ля сцен школы, уладкаваўся кіраўнік Беразінскай выяўленчай студыі **Барыс Няхайчык**. Яго жывапіс і графіку на працягу ўсяго дня абаранялі ад дажджу.

Напрыканцы дырэктар МРЦР **Ларыса Ступіна** запрасіла наведаць выстаўку "Гліняны звон", якая пройдзе 15 чэрвеня ў Радашкавічах.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

**Маладзечанскі раённы цэнтр рамёстваў існуе з 1997 года. Тады ў штаце працавала тры чалавекі, сёння – 11. З 1999 года адкрыліся чатыры філіялы: Гарадоцкі цэнтр займаецца вышыўкай, Турэц-Баярскі – лозапляценнем, Маладзечанскі – саломапляценнем і выцінанкай, Красненскі – разьбой па дрэве і выцінанкай. У цэнтры займаецца звыш за 60 чалавек.**
**З 1-га мая гэтага года МРЦР атрымаў ліцэнзію на продаж сваіх вырабаў.**
**З 1997 па 1999 год дырэктарам быў Сяргей Васюта.**
**З 1999 года МРЦР кіруе Ларыса Ступіна.**

■ КАНФЕРЭНЦЫІ

# Эксперымент будзе пашырацца

**МАЛАДЗЕЧНА. На мінулым тыдні на базе сярэдняй спецыяльнай школы мастацтваў прайшла VI Міжнародная канферэнцыя "Кіраванне якасцю адукацыі ў інтарэсах трывалага развіцця грамадства".**

Тэма канферэнцыі была звязаная з пытаннямі захавання і паляпшэння здароўя і здаровага ладу жыцця дзяцей, іх навучання. Канферэнцыя арганізаваная сумесна з Міністэрствам адукацыі Беларусі і Расіі. Яна працягвалася 3 дні. На мерапрыемстве прысутнічалі прадстаўнікі краін Балтыі, Расіі і Украіны.

Дырэктар агульнаадукацыйнай школы мастацтваў **Людміла Васілевіч**:

– Расіян уразіла, што за час, які мы ўдзельнічаем у эксперыменце (амаль 4 гады), у нас назапасілася шмат напрацовак і ёсць пэўныя вынікі. Павялічылася колькасць абсалютна здаровых дзяцей, скарацілася захворваемасць, рэзка ўзняўся працэнт дзяцей, якія вучацца на "4" і "5". Гэта значыць, узрасла якасць навучання.

Сутасць эксперыменту – у змяненні структуры навучальнага года: канікулы не супадаюць з канікуламі ў звычайных школах, змены ёсць у раскладзе заняткаў. Усё робіцца дзеля таго, каб дзеці менш стамляліся.

Міністр адукацыі Беларусі **Пётр Брыгадзін**, які прысутнічаў на канферэнцыі, сказаў, што эксперымент будзе пашырацца. У Беларусі павялічыцца колькасць школ, якія будуць займацца па новай методыцы.

**Ірына РАБУШКА.**

■ МАСТАЦТВА

# Здымаюць кіно

**СМАРГОНЬ. Здымкі мастацкага фільма з папярэдняй назвай "Лялька" праходзяць ў Гальшанах. Усе 80 артыстаў жывуць у Смаргоні.**

Сярод іх – выканаўца галоўнай ролі **Генадзь Аўсянікаў**, **Анатоль Кацянёў**, які сцэнаў вядомы па кінафільму "Сакрэтны фарватэр", адзіны з расійскіх акцёраў **Яўген Сядзіхін**. Рэжысёр-пастаноўшчык – лаўрэат дзяржаўных прэмій СССР і БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі **Дзмітрый Зайцаў**.

Мяркуецца, што здымкі будуць працягвацца да 3 ліпеня.

**Тарэса КУМІШЧА.**

## Злёт юных талентаў

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю ў дзіцячай гарадской бібліятэцы прайшоў семнаццаты гарадскі злёт юных талентаў.**

9 чалавек – вучні 5-11 класаў гарадскіх школ – атрымалі прызы. Мастакам уручылі блокі для малявання, гуаш, набор пэндзлікаў. А тым вучням, хто перамог у намінацыі "Проза" і "Паэзія" – мяккія цацкі і кніжкі.

**Вольга КАСЯКОВА.**

■ ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ.

# Ці патрэбны гораду ФК «Маладзечна-2000»?

**Усе апытаныя падзяліліся на два лагеры. Жанчыны, якія ўвогуле не хочуць нічога чуць і гаварыць пра футбол. І мужчыны, якія маглі б сказаць усю праўду пра ФК «Маладзечна-2000», але баяцца, што іх паб'юць футбалісты ці фанаты. Некаторыя ўсё ж рызыкнулі падзяліцца сваімі думкамі.**



**Міхаіл Штэйнпрэс, пенсіянер:**
– Футбольны клуб "Маладзечна"? Наогул, мой час цікавіцца футболам ужо прайшоў. Цяпер у кожным двары свая каманда. Але лічу, што горад павінен мець сваю каманду. Няхай ведаюць, што ёсць такі горад.



**Уладзімір Лашук, настаўнік фізічнай культуры:**
– Зразумела, патрэбны. Футбол – гэта відовішча, настрой, радасць. ФК "Маладзечна-2000" абавязкова павінен быць. Пажадана, каб свае кадры рыхтавалі. Месцачковыя таленты збіралі. Зарабляюць няхай самі тым, што прадаюць футбалістаў. Можа, горад чым дапаможа.



**Таццяна Астрамовіч, вучаніца:**
– Крыху цікавасць ёсць да футбола. Калі-нікалі хаджу на матчы. На школьным стадыёне з дзяўчатамі сваю футбольную лігу наладзілі. ФК "Маладзечна-2000" патрэбны. Каб футбол у горадзе развіваўся. Зарплату футбалістам плаціць не варта. Гэта ж хобі.



**Станіслаў Чэрнель, вучань:**
– Вядома. Каб абараняў гонар горада. Сам на футбол хаджу. Бывае, у Мінск, Жодзіна за камандай езджу. Зарплату футбалістам плаціць павінны. Спонсары ды мэр няхай раскашэляцца.



**Святлана Стрэж, беспрацоўная:**
– У інстытуцкія гады любіла футбол. Класна быць балельшчыкам! Цяпер не сачу за футболам і ФК "Маладзечна-2000" у прыватнасці. Няхай прадстаўляюць наш горад. Калі добра гуляць будуць, праславімся. Зарплату, мабыць, плаціць павінны. Можа, гарадскі бюджэт у гэтым паспрые.



**Ніна Каранеўская, рабочая:**
– Ведаю такую каманду. Быць яна павінна. У кожным горадзе ёсць свая адметнасць. ФК "Маладзечна-2000" – наша адметнасць. Зарплату няхай выдзяляюць з гарадскога бюджэту.

**Падрыхтавала Ірына РАБУШКА.**

## Гараскоп 27 мая – 2 чэрвеня



**Авен** (21.03–20.04)

Працягваецца перыяд інтэнсіўнай работы, у які вы можаце без перашкод рухацца наперад. Звярніце ўвагу на дні 31 мая – 1 чэрвеня, калі могуць адбыцца нейкія падзеі, вынікам якіх з'явіцца серыя перамен. Многія Авены, нават самыя занятыя, пачынаюць падумваць пра адпачынак. Нарэшце!



**Цялец** (21.04–21.05)

Падзеі апошніх тыдняў сканцэнтруюцца менавіта ў гэты перыяд. Вы можаце як атрымаць усё, што пажадаеце, так і згубіць... нават тое, чаго няма. 1-2 чэрвеня – дні, калі вам давядзецца плаціць або атрымліваць па рахунках. Дарэчы, гэта тычыцца і нематэрыяльнай сферы – кахання, узаемаадносінаў, сям'і...



**Блізняты** (22.05–21.06)

Вы можаце быць падобныя на цягнік, які намагаецца абагнаць... паравоз. Ці варта гэтым займацца, калі вынік падобнага руху вядомы загадзя? Паспрабуйце стрымліваць сябе, асабліва ў перыяд да 1 чэрвеня. 2-га, наадварот, можаце выкарыстаць хуткасныя якасці цалкам. Самаадчуванне на вышыні.



**Рак** (22.06–23.07)

Перыяд будзе адзначаны паступленнем інфармацыі, а сустрэчы і знаёмствы будучага перыяду могуць прывесці да доўгатэрміновага супрацоўніцтва. Добры эмацыянальны тонус дапаможа падтрымаць партнёр па шлюбе. Адзінае, чаго вы павінны пазбягаць, – канфлікты і «баі» мясцовага значэння.



**Леў** (24.07–23.08)

Магчыма, вы заблыталіся ў асабістых стасунках, і вам трэба разабрацца. чаго вы хочаце ад партнёра, а галоўнае – ці можаце вы даць яму тое, што хоча ён. Ды вы і самі ў гэтым зацікаўлены, бо вашыя нестабільныя эмоцыі часта адмоўна сказваюцца на вытворчай сферы. У выхадныя – на прыроду!



**Дзева** (24.08–23.09)

Асноўную ўвагу – свайму здароўю! Схадзіце ў басейн, забяспечце сябе добрым харчаваннем. Дамам абавязкова трэба наведаць добры касметычны салон і купіць сабе якую-небудзь чароўную дробязь. І як мага менш думак пра работу!



**Шалі** (24.09–23.10)

З 28 мая па 1 чэрвеня – перыяд сямейнага спакою і фінансавага дабрабыту. Аднак такі стан, як вы самі разумееце, доўга працягвацца не можа. Атрымайце ад гэтага асалоду. Акрамя таго, магчымы візіт да вас прыемных людзей або атрыманне вестак.



**Скарпіён** (24.10–22.11)

З-за сваіх эмоцый вы проста не будзеце заўважаць падзеі, якія адбываюцца вакол вас, і людскую мітусню. Сексуальныя і прывабныя Скарпіёны абодвух палоў будуць выпраменьваць такую абаяльнасць, што тыя калектывы, у якіх яны працуюць, могуць выйсці з нармальнага рабочага рытму. А рэакцыя кіраўніцтва?



**Стралец** (23.11–21.12)

Усе намаганні, што вы прыкладалі ў апошні час, прынясуць дзіўны плён. Вы адчуеце сябе пераможцай на ўсіх жыццёвых франтах і неадкладна запатрабуеце ўзнагароду. Дарэчы, многія з вас не атрымаюць і без усялякіх патрабаванняў. Выдатны настрой дапаможа здзейсніць новыя... подзвігі.



**Казярог** (22.12–20.01)

Многае з таго, што вас пераследавала на працягу апошніх месяцаў – сумненні, дэпрэсія, нявызначанасць становішча (а ў некаторых – судовыя працэсы) – адыдзе на задні план. Наперадзе – паласа станоўчых перамен. Добрая фізічная форма і самаадчуванне.



**Вадалей** (21.01–19.02)

Шмат праблем як на рабоце, так і са здароўем. Магчыма, прычына ў вашым няўменні своечасова разабрацца з дробнымі непрыемнасцямі, якія і перарастаюць у цяжкавырашальныя сітуацыі. Увага на дарогах!



**Рыбы** (20.02–20.03)

Вы зноў перад выбарам – ці варта працягваць стасункі з партнёрамі? Займацца сваёй сям'ёй ці спрабаваць наладзіць адносіны ў сем'ях сваіх сяброў? Прыняць новую прапанову аб рабоце ці працягваць валаводзіць на старой? Адкажыце сабе на гэтыя пытанні, і жыццё будзе здавацца цудоўным...

■ ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

## На Вілейшчыне змагаліся з сухотамі

**В. Круці Вілейскаго павета Мядзельскай валасці.** 30 красавіка раніцай трое работнікоў мужчын пайшлі гарадзіць плот. Насунулася хмарка, ударыў гром, і аднаго чэлавека пры плоці забіло на сьмерць, парвало на ім адзежу і боты. Другіе два мужчыны адыйшліся на колькі крокоў, каб нарубіць вітак, іх так сама аглушыў гром, але, як яны рубалі вітку пры балоціткy, то павалілісь ў ваду і гэткім спосабам уратавалі сабе жыцьцё.

**А. Мінкоўскі «Наша Ніва». № 21 ад 24 мая 1912 года**





## Гарэлка і да турмы давядзе

**АСТРАВЕЦ. Сем год пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму атрымаў жыхар станцыі Гудагай. Астравецкі раённы суд прыгаварыў яго да такой меры пакарання за забойства.**

Злачынства адбылося 9 студзеня. Хлопец адзначаў у кампаніі заканчэнне працоўнага дня не адным кілішкам гарэлкі і накіраваўся дадому. Настрой у яго быў не з лепшых, бо падчас выпіўкі ледзь не пабіўся з адным з выпівох, які таксама працаваў у філіяле аптова-гандлёвай базы Астравецкага райспажыўтаварыства. Дома злачынцу сустрэў бацька. Як і сын, ён быў пад "добрым градусам", а таму пасля кароткай размовы ў доме адбылася бойка. Сын пабіў бацьку і выйшаў з дому.

Далейшы шлях злачынцы праходзіў паблізу Гудагайскай сярэдняй школы. Ён завітаў у кавярню і ўбачыў там качагара А., з якім стасункі да гэтага складаліся не лепшым чынам. І за дзесяць хвілін збіў А. так, што той апынуўся ў рэанімацыйным аддзяленні бальніцы. Выжыць пасля гэтых пабояў А. не было наканавана.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

■ НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## Сапраўды ўваскрос!

Гісторыя гэта здарылася ў пачатку 90-х гадоў ва Усходняй Беларусі. Улады тады на ўсю моц выкаранялі "опій для народа". Вось і ў тым раёне на Вялікдзень спачатку зрабілі "воскресник". А потым звезлі калгаснікаў у поле на банкет. Віно, самагонка, самадзейнасць. "Лектары", што прыехалі з горада, адзін за адным выступалі з расказамі на тэму, што ніякага бога няма.

І вось у самы разгар свята да трыбуны тупае дзядок.

– Дайце і мне, - кажа, - слова сказаць.

Паглядзелі – дзед як дзед. Падумалі ды й дазволілі. Дзядок падышоў да мікрафона, адкашляўся. І сказаў:

– Хрыстос уваскрос!

Грамада ў імгненне працверазела. Людзі пачалі падымацца на ногі.

– Хрыстос уваскрос!

Сапраўды ўваскрос! - адказалі некалькі чалавек.

– Хрыстос уваскрос!

– Сапраўды ўваскрос! – адказалі сотні галасоў.

Дзядок кінуў начальству: "У мяне ўсё". І сышоў да народа.

Пасля гэтага выпадку лектары пачалі саступаць адзін аднаму трыбуну, у "самадзейнасці" раптам прапаў голас, а людзі ўспомнілі пра свае хатнія абавязкі. Праз колькі хвілін поле апусцела. Засталася толькі трыбуна ды купка "ідэйнага" начальства.

**Алег БЯГАНСКІ, Маладзечна.**









**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)**

Рэгіянальная газета
Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ніна МАНЦЭВІЧ.
Пасведчанне № 227.
Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ**.

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. Тыраж **9255 экз.** Індэкс **63212** (індывідуальная падпіска), **63369** (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. У розніцу – цана свабодная. **№21 (370) 24.05.2002.** РУП «Друкарня «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ. 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. № 1590. Падпісана ў друк у 13.00 23.05.2002

**Наш адрас: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.**
**ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41, 5-07-99.**
**E-mail: region_news@irex.minsk.by**
**http://regionnews.promedia.minsk.by**

**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а. **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** вул. Вадап'янава, 23, капіравальны цэнтр «Парус». **Тэл. 53935, 55284.**
**Смаргонь:** вул. Танкістаў, 8, рэдакцыя «Новой газеты Сморгони». **Тэл. 33077, 34353.**

**Разліковы рахунак №3012164030006 у філіяле ААТ «Белзнешэканамбанк» у Маладзечне, код 211, атрымальнік ТАА Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета»**